Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 15 400.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Серада, 11 сакавіка 1998 г. № 24 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Настаўніцу з Беларусі забілі ў Кеніі

**На адной з цэнтральных вуліцаў Найробі, сталіцы Кеніі, загінула 33-гадовая настаўніца з Мінска Святлана Кавальская.**

Яна выйшла замуж за кенійца і з 1987 года жыла ў Кеніі. Жанчына не адмовілася ад савецкага грамадзянства, а ў мінулым годзе атрымала грамадзянства Беларусі. Пасля разводу з мужам Святлана жыла ў Найробі разам з 8-гадовай дачкой і 5-гадовым сынам. С.Кавальская працавала выкладчыцай музыкі ў прэстыжнай міжнароднай школе Кеніі.

Трагедыя здарылася ў пятніцу, 6 сакавіка, калі С.Кавальская паркавала свой аўтамабіль на стаянцы *Маі*-авеню. На яе накінуліся некалькі ўзброеных мужчынаў, якія запатрабавалі ключы ад машыны. Бандыты, не задумваючыся, стрэлілі ў жанчыну і са смяротнымі ранамі выкінулі яе з аўтамабіля. На захопленай машыне, у якім знаходзілася яшчэ сяброўка Святланы, забойцам удалося ўцячы. Сяброўку бандыты высадзілі ў прыгарадзе Найробі. С.Кавальская памерла, калі яе везлі ў бальніцу.

У прэс-службе міністэрства замежных справаў Беларусі нам паведамілі, што інфармацыя наконт здарэння ім яшчэ не паступіла, бо ў Кеніі Беларусь не мае сваёй амбасады.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Расійскія дэмакраты ствараюць беларускі клуб

**Міжнародны клуб «У падтрымку дэмакратыі ў Беларусі» ствараецца ў Маскве.**

Аб гэтым абвясцілі прадстаўнікі шэрагу грамадскіх арганізацыяў Расіі — рух «Дэмакратычная Расія», «Мемарыял», Маскоўская Хельсінкская група ды іншых. Заяўлена, што клуб будзе займацца інфармацыйным абменам паміж яго ўдзельнікамі і спрыяць з'яўленню аб'ектыўнай інфармацыі аб Беларусі ў расійскіх СМІ.

У заяве, прынятай заснавальнікамі клуба, канстатуецца, што ў Беларусі працягваюцца грубыя парушэнні правоў чалавека. Падпісанты заклікаюць праявіць салідарнасць з барацьбітамі за дэмакратыю ў Беларусі.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## «Ікарусы» будуць рабіць у Беларусі

**У бліжэйшы час у Беларусі плануецца стварыць сумеснае беларуска-венгерскае прадпрыемства па зборцы аўтобусаў «Ікарус».**

Пра гэта паведаміў учора на прэс-канферэнцыі пасол Венгрыі ў Беларусі Карш Габр. За апошнія гады эканамічнае супрацоўніцтва Венгрыі і Беларусі развівалася даволі марудна. Па словах Карша Габра, летась тавараразварот паміж нашымі краінамі склаў усяго каля 90 мільёнаў долараў. Адзін з галоўных прадметаў венгерскага экспарту на Беларусь — аўтобусы «Ікарус» і запчасткі да яго. Стварэнне сумеснага прадпрыемства па выпабу «Ікарусаў» у Беларусі, на думку эканамістаў, паспрыяе далейшаму развіццю эканамічных кантактаў паміж Беларуссю і Венгрыяй і будзе выгадны нашай краіне.

Але, здаецца, ніхто яшчэ не палічыў тую шкоду, якую наносяць гэтыя самыя «Ікарусы» навакольнаму асяроддзю. Штодня тысячы «Ікарусаў» забруджваюць і так не самае чыстае паветра беларускіх гарадоў. Дарэчы, з-за высокага ўзроўню таксічнасці «Ікарусы» не пускаюць у многія краіны Еўропы. І калі цяпер іх будуць выпрабляць у Беларусі, ці не будзе ад гэтага болей шкоды, чым выгады?

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



## Міністры паставяць кропку

**25 сакавіка, у 80-ю гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, міністр замежных справаў Іван Антановіч здзейсніць важны палітычны акт.**

Як паведаміла міністэрства замежных справаў Літвы, 25 сакавіка ў Вільні адбудзецца сустрэча міністраў замежных справаў трох суседніх дзяржаваў: Літвы — Альгірдаса Саударгаса, Латвіі — Валдзіса Біркаўса і Беларусі — Івана Антановіча. Кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў падпішуць парафіраваны на мінулым тыдні дагавор аб устанаўленні кропкі перасячэння дзяржаўных межаў трох дзяржаваў каля возера Лудвінава.

*BNS - БелаПАН*



*На здымку: кожны зарабляе як можа.*

## Падаткі: шмат плаціць не давядзецца

**Прэзідэнцкім дэкрэтам адменена дэклараванне сукупнага гадавога даходу.**

Падаходны падатак з даходаў, атрыманых фізічнымі асобамі ў 1997 годзе, будзе вылічвацца ў адпаведнасці з нормамі закона «Аб падаходным падатку з грамадзянаў». Гэта значыць, што парадак дэкларавання будзе такі самы, як і ў мінулым годзе. Давядзецца дэкляраваць дадатковыя даходы, калі яны былі атрыманыя ў двух і больш месцах у выглядзе ганарараў альбо заробкаў па дагаворах падраду. Але гэтыя грошы не будуць суміравацца з асноўнай зарплатай, а значыць, і даплачваць вялікіх падаткаў не давядзецца. Тэрмін падачы дэкларацыяў працягнуты да 15 красавіка, а тэрмін выплаты ці вяртання падаходнага падатку — да 15 траўня 1998 г.

Але будзьце гатовыя, што за даходы, атрыманыя сёлета, у наступным годзе давядзецца плаціць падатак па шкале сукупнага гадавога даходу.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Правы чалавека для нас – таямніца

**Толькі 15 працэнтаў апытаных мінчанаў знаёмыя з Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека.**

Як вядома, сёлета адзначаецца 50 гадоў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека — Генеральная Асамблея ААН прыняла гэты дакумент 10 снежня 1948 года. Адразу ж пасля абвяшчэння Дэкларацыі Асамблея звярнулася з заклікам да ўсіх дзяржаваў-членаў ААН абнародаваць тэкст дакумента і зрабіць усё магчымае для яго распаўсюджвання, абвяшчэння і тлумачэння. Каб высветліць стаўленне жыхароў Мінска да гэтага дакумента, прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь заказала даследаванне грамадскай думкі.

Апытаныя рэспандэнты прадстаўляюць усе сацыяльныя групы ва ўзросце ад 16 гадоў. На пытанне, ці даводзілася ім знаёміцца з палажэннямі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, толькі 15% мінчан адказалі сцвярджальна. З іх 7% вывучалі Дэкларацыю ў навучальнай установе, а 8% — самастойна. Гэта ў большасці людзі з вышэйшай адукацыяй.

Амаль палова рэспандэнтаў (47%) сказалі, што «чулі» аб існаванні Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, а 30% апытаных адзначылі, што «ніколі не чулі» пра існаванне Дэкларацыі. У асноўным гэта людзі з невысокім узроўнем адукацыі.

Рэспандэнтам таксама прапаноўвалася адказаць, якія палажэнні Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ім здаюцца найбольш важнымі. У выніку большасць — 64% апытаных мінчан — паставілі на першае месца «права на жыццё, свабоду і асабістую недатыкальнасць». На другім месцы аказалася «права на працу» — яго адзначылі 39% грамадзянаў. Больш як трэць рэспандэнтаў лічаць найбольш важным «права на роўную абарону закона». 24% выдзелілі «права на свабоду перакананняў і на свабоднае выказванне іх», а таксама «права на адукацыю». І толькі 3% жыхароў беларускай сталіцы найбольш важным для сябе лічаць «права на свабоду мірных сходаў і дэманстрацыяў».

Паказальна, што палова апытаных не змаглі адказаць на пытанне, ці адлюстраваныя палажэнні Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

*БелаПАН*

## У нядзелю – шэсце і мітынг

**У Дзень Канстытуцыі адбудзецца шэсце і мітынг.**

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя Народная грамада атрымала ад Мінгарвыканкама дазвол на правядзенне ў сталіцы 15 сакавіка шэсця і мітынгу, прысвечаных Дню Канстытуцыі. Шэсце пачнецца а 12-й гадзіне з плошчы Я.Коласа.

**Б.П.**

## Беларуская прэса: да свабоды ці ў падполле?

**Толькі беларускія ўлады паспелі выказаць пратэст з нагоды правядзення семінара ў Беластоку, як Польшча правяла яшчэ адзін — у Кракаве.**

Кракаўскі семінар называўся «Польшча і Расія для Беларусі: роля незалежных СМІ ў дэмакратычнай дзяржаве». У ім удзельнічалі журналісты і палітыкі з трох пераліччаных краінаў.

Дырэктар кракаўскага Інстытута стратэгічных даследаванняў Міжнароднага цэнтра развіцця дэмакратыі Багдан Кліх падкрэсліў: *«Дапамагчы таму, каб Беларусь стала свабоднай дэмакратычнай дзяржаваю — гэта не толькі наш маральны абавязак, але гэта і ў палітычных інтарэсах Польшчы»*. Старшыня Саюза польскіх журналістаў Анджэй Савіцкі заявіў: *«Змяненне дзяржаўнага ладу залежыць не толькі ад палітычных і эканамічных аспектаў, але ў першую чаргу ад зменаў у свядомасці грамадзян, — і тут вельмі важная роля належыць СМІ. Незалежнасць СМІ з'яўляецца паказчыкам узроўню дэмакратыі і не можа ўспрымацца як чыста ўнутраная праблема дзяржавы»*.

Галіна Старавойтава, дэпутат Дзярждумы і старшыня партыі «Дэмакратычная Расія», нагадала, што ў часы Шушкевіча Беларусь, пры ўсіх цяжкасцях, успрымалася як неад'емная частка Еўропы; цяпер жа ўспрымаюць зусім іншае, бо *«Лукашэнка ціха стварае ў Беларусі таталітарную, фашысцкую мадэль»*. А сам былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч падрабязна распавёў удзельнікам семінара пра сітуацыю ў нашай краіне, засяродзіўшы ўвагу на тым, што *«ў Беларусі пад выглядам рэферэндуму адбыўся дзяржаўны пераварот: з самага пачатку «рэферэндум» быў наладжаны так, каб не было перашкодаў для фальсіфікацыяў — і вынікі былі сфальсіфікаваныя»*. На думку С.Шушкевіча, *«палякі могуць зрабіць для Беларусі тое, што Захад у свой час рабіў для Польшчы — але ніхто, акрамя нас саміх, не зможа ўстанавіць у нас дэмакратыю»*. А ў гэтай справе, па меркаванні былога намесніка мэра Масквы Сяргея Станкевіча, марудзіць нельга: *«Прыблізна гады праз два ў Беларусі будзе створаны механізм гістарычнай непазбежнасці, сістэма ўсталюецца, і зрабіць нешта пазітыўнае будзе ўжо вельмі цяжка»*.

Польскія журналісты падзяліліся з беларускімі калегамі вопытам сваёй працы ў сацыялістычныя і постсацыялістычныя часы. *«Найпершай акцыяй першага дэмакратычнага ўрада Мазавецкага*, — паведаміў журналіст Ежы Сурдыкоўскі, — *была ліквідацыя цэнзуры. Цяпер вельмі лёгка зарэгістраваць новае выданне, але цяжка вытрымаць рынкавую канкурэнцыю. А дагэтуль у Польшчы існаваў падпольны друк, з якога чэрпалі ўздым апазіцыйныя лідэры і які адыгрываў вялікую ролю ў фармаванні грамадскай свядомасці. Найбуйнейшая польская «Газета выборча» нарадзілася якраз з такога падпольнага лістка»*.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Беларусь прэтэндуе на сваю долю фашысцкага золата

**Беларускія эксперты правялі ў архівах Германіі даследаванне матэрыялаў па праблеме нацысцкага золата.**

У гэтую групу ўваходзілі архівісты-прафесіяналы і супрацоўнікі рэспубліканскага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне». Днямі яны вярнуліся з Германіі, дзе на працягу 10 дзён праводзілі даследаванні адпаведных дакументаў. Беларускі бок цяпер актыўна рыхтуе матэрыялы, якія пацвярджаюць правы грамадзянаў Беларусі на частку нацысцкага золата. Дакументы плануецца прадставіць Вашынгтонскай міжнароднай канферэнцыі, што адбудзецца ў траўні. На канферэнцыі будуць выпрацоўвацца прынцыпы грашовай кампенсацыі за золата і іншыя каштоўнасці, вывезеныя нацыстамі з акупаваных тэрыторыяў.

Як паведаміў намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве Беларусі Уладзімір Адамушка, адразу ж пасля Лонданскай канферэнцыі 1997 года, дзе ўпершыню было пастаўленае пытанне аб нацысцкім золаце, архівісты рэспублікі пачалі даследаванні па гэтай праблеме. Адпаведныя матэрыялы былі знойдзеныя сярод дакументаў Вермахта, міністэрства па справах акупіраваных тэрыторыяў, партызанскіх фондаў і фондаў Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі па расследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якая актыўна працавала на тэрыторыі Беларусі з 1944-га да пачатку 50-х гадоў. У германскім архіве «Берлін-Ліхтэрфельдэ», дзе сканцэнтраваныя дакументы трох германскіх рэйхаў, група беларускіх экспертаў, па словах У.Адамушкі, азнаёмілася з дакументамі рэйхскамісарыята «Остланд» (у яго ўваходзіла частка акупаваных беларускіх земляў), Народнага банка Германіі, Нюрнбергскага працэсу і іншых. «Нас цікавілі дакументы агульнага плана па гэтай праблеме і дакументы, якія датычаць канфіскацыі каштоўнасцяў у канкрэтных грамадзянаў. У бліжэйшы час з вынікамі даследаванняў мы плануем пазнаёміць шырокую грамадскасць», — адзначыў Уладзімір Адамушка.

*БелаПАН*

# Мінімальны заробак — да 200 долараў!

**У панядзелак у Гродне адбыўся першы мітынг, арганізаваны прафсаюзам прадпрымальнікаў.**

Удзельнікі выступалі супраць ціску ўладаў на прадпрымальнікаў, а таксама супраць жабрацтва, у якім апынуліся жыхары Беларусі. Як гаварылася на мітынгу, сёння людзі зарабляюць ад 6 да 30 долараў, тым часам для нармальнага існавання патрэбна 200. Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю з патрабаваннем да ўладаў павысіць мінімальны заробак да 200 долараў, а мінімальную пенсію — да 100.

Арганізатары запрасілі на мітынг кіраўніцтва Аб'яднанай грамадзянскай партыі, і перад прысутнымі выступіў старшыня партыі прафесар С.Багданкевіч. Ён сказаў, што ў Беларусі, дзе няма эканамічнай свабоды, на аднаго грамадзяніна прыпадае менш за 2 тысячы долараў нацыянальнага валавага прадукта, тым часам, як у Заходняй Еўропе гэтая лічба перавышае 20 тысячаў долараў. Прамоўца сказаў, што не можа быць, каб беларускія жанчыны здолелі нарадзіць толькі аднаго генія — Лукашэнку, на Беларусі на самой справе сотні таленавітых людзей, якіх трэба вылучаць у органы мясцовай улады. Дзеля гэтага С.Багданкевіч прапанаваў гродзенцам арганізаваць і правесці мясцовы рэферэндум наконт таго, каб самі жыхары выбіралі мэра горада і кіраўніка вобласці.

Да панядзелка мітынгаў у Гродне не было амаль год. Пасля прэзідэнцкага дэкрэта № 5 улады забаранілі праводзіць іх на плошчах. Гэты адбыўся на задворках палаца культуры тэкстыльшчыкаў. Апошні раз мітынгоўшчыкі збіраліся там, каб паслухаць кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнку, якому тады таксама не давалі выступаць у цэнтры Гродна.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Партрэт афіцэра беларускага войска

**У беларускіх Узброеных сілах служаць 18,5 тысячы афіцэраў. Крыху больш за палову з іх — беларусы.**

Каля 36% прадстаўнікоў афіцэрскага корпусу па нацыянальнасці — рускія, прыкладна 10% — украінцы. Прычым сярэдні ўзрост афіцэраў беларускага войска — 33 гады, больш за 90% з іх маюць вышэйшую адукацыю і каля 10% — вышэйшую ваенную (акадэмічную).

На думку спецыялістаў, паказчыкам таго, што афіцэрская служба становіцца ўсё больш прэстыжнай, з'яўляецца колькасць жадаючых вучыцца ў Ваеннай акадэміі ў Мінску. Так, у 1997 годзе конкурс на некаторыя факультэты акадэміі перавышаў чатыры чалавекі на адно месца.

# Беларускі дэсант у Брытанію

**10 сакавіка Галоўны ваенны аркестр Узброеных сілаў Рэспублікі Беларусь адправіўся ў Вялікабрытанію.**

Беларускія музыканты ў пагонах возьмуць удзел у фестывалі ваенных аркестраў. Як паведамілі ў прэс-службе ваеннага ведамства, гэты калектыў ужо не ўпершыню ўдзельнічае ў падобных ваенна-музычных святах і неадназова станавіўся лаўрэатам міжнародных фестываляў.

*БелаПАН*

# Галоўныя памежнікі сустрэліся ў Гомелі

**10 і 11 сакавіка ў Гомелі адбываецца рабочая сустрэча кіраўнікоў памежных службаў трох суседніх краінаў — генерал-маёра А.Паўлоўскага (Беларусь), генерал-палкоўніка М.Бардзюжа (Расія) і генерал-палкоўніка В.Банных (Украіна).**

У аўторак у 8 гадзін раніцы расійская дэлегацыя прыбыла ў гомельскі аэрапорт. Украінцы прыехалі ў 13 гадзінаў на аўтамабілях. Мэта сустрэчы — абмеркаваць перспектывы супрацоўніцтва і аховы межаў у адпаведнасці з палітычным мемарандумам ад 15 красавіка 1994 года. Будуць разглядацца і падыходы да ўсталявання рэжыму на беларуска-ўкраінскай і расійска-ўкраінскай межах. Вельмі важнае пытанне рэадмісія, гэта значыць вяртанне ўцекачоў і нелегальных мігрантаў. Пакуль Беларусь не падпісала ніводнай дамовы аб рэадмісіі, хоць гэтага вельмі жадаюць Польшча і Літва.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**



*На памежжы з Украінай у нас створаны два памежныя атрады — у Пінску і Гомелі. Першы з іх пачаў ахоўваць мяжу з Украінай у канцы мінулага года, а другі — сёлета, 31 студзеня. Украінцы ахоўваюць свой бок мяжы з Беларуссю з 1993 года.*

ПАЗІЦЫЯ

# Вяртанне

**Зянон ПАЗЬНЯК,**
***старшыня БНФ «Адраджэнне»***

*(Пачатак у № 23)*

Прайшла бурная вясна-97, вясна масавага змагання супраць інтэграцыі з Расіяй. Нехта нават абстраляў расійскае пасольства. *«А што датычыцца саюза з Расіяй,* — кажа пасля гэтага ў Маскве намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Г.Карпенка, — *то тут адбылася дзіўная падмена паняццяў. Ствараецца ўражанне, у першую чаргу з падачы самога Лукашэнкі, быццам толькі ён адзін стаіць ва ўсёй Беларусі за саюз. А апазіцыя быццам бы супраць. Гэта хлусня. Няма ніводнага самавітага думаючага палітыка ў нашай краіне, які сёння пярэчыў бы супраць самай цеснай інтэграцыі з Расіяй»* («Известия», 1997, 22 кастрычніка). Далей яшчэ цікавей: *«Я думаю,* — працягвае Г.Карпенка, — *цяпер шмат хто ў Крамлі разумее, што ва ўзаемаадносінах з Мінскам нельга ўсе яйкі класці ў адзін палітычны кошык. У кожным разе, калі маеш справу з такім непрадказальным і небяспечным чалавекам, як Лукашэнка, які можа ў любы момант парушыць любое дадзенае ім абяцанне».*

Тэму выканання любых абяцанняў яшчэ больш прасталінейна выказвае ў Маскве старшыня АГП С.Багданкевіч. Ён хоча засведчыць, што менавіта яны, лібералы з Вярхоўнага Савета, будуць каштаваць для Масквы танней за ўсіх, у тым ліку і за Лукашэнку.

*«Ці будуць іншыя* («апазіцыйныя», — **З.П.**) *палітычныя сілы лічыцца з інтарэсамі Расіі?* — пытаецца сам сябе С.Багданкевіч і адказвае: — *У гэтым няма ніякіх сумненняў. І справа не толькі ў сімпатыях, якія яны адчуваюць да рускага народа, да рускай культуры, — проста выконванне натуральных інтарэсаў Расіі адпавядае нацыянальным інтарэсам самой Беларусі»* («Открытая политика», 1997, № 1—2).

Што ж гэта за інтарэсы? *«У Расіі, як у вялікай дзяржавы, ёсць у Беларусі свае даволі сур'ёзныя інтарэсы»,* — кажа С.Багданкевіч. І праз абзац: *«Цяпер разгледзім, як выконваюцца гэтыя законныя інтарэсы Расіі пры Лукашэнку».* Тут апазіцыянеры безумоўна пераплюнулі і Лукашэнку. Расія, па іхнім разуменні, мае ў Беларусі ўжо нават «законныя» інтарэсы, якія, на думку С.Багданкевіча, дрэнна выконвае Лукашэнка. *«Што да бяспечнага транзіту,* — тлумачыць С.Багданкевіч, — *то прэзідэнт Лукашэнка даўно прызнаўся, што ў крытычныя моманты загадваў адпампоўваць на беларускія патрэбы энергарэсурсы з расійскай трубы, што ідзе на Захад* (па нашай тэрыторыі і задарма. — **З.П.**). *Ці можна гаварыць пра бяспеку, калі партнёр паводзіць сябе на манер чэхаўскага «Злоумышленника»?».*

Дрэнна, канечне, калі палітык блытае нацыянальныя інтарэсы з дагаворнымі адносінамі, але тым не менш рэдка даводзіцца чытаць падобнае. Гэтыя спадары ўжо гандлююць Беларуссю і самімі сабой амаль задарма. А іх не купляюць. І няўцям ім, чаму іх не купляюць.

Па галоўных палітычных крытэрыях барацьбы — дзяржаўнасць і незалежнасць — ніякай розніцы ў падыходах паміж Лукашэнкам і ліберал-апазіцыяй няма. Толькі Лукашэнка прадае Беларусь даражэй — за ўладу над Расіяй, а ліберал-апазіцыянеры прадаюць яе так сабе, за панюшку табакі. І гэтую сваю дармаўшчыну яны нясуць як крытэрый сваёй вартасці ў Крэмль.

Тым часам людзі, якія прывялі да ўлады калгаснага дыктатара ў 1994 годзе, якія нішчылі рух супраць надыходзячай дыктатуры ў 1995 і якія праваліла імпічмент у 1996-м, так павярнулі ў сваю «апазіцыйнасць», што ходзяць ужо ў героях, называюць адзін аднаго гонарам Беларусі, надзеяй народа і нават «сумленнем беларускай нацыі». Гэта пра Л.Сініцына, замаскаванага службіста, які прынцыпова «не разумее» па-беларуску, які кіраваў выбарчай кампаніяй Лукашэнкі і рэсурсамі, які разам з Лукашэнкам і Ціцянковым ажыццявіў акцыю ўводу войска ў парламент 12 красавіка 1995 г. і збіцця дэпутатаў БНФ, які займаўся падрыхтоўкай рэферэндуму 1995 г. і анексіі Беларусі. Гэта — пра абаронцу камсамола А.Лябедзьку, якога Лукашэнка ў 1994 годзе прызначыў сваім дарадцам і асабістым прадстаўніком ў парламенце 12-га склікання. Пра таго самага Лябедзьку, які «валіў» законапраекты аб выбарах па партыйных спісах, які правёў у парламенце закон, што заклаў падмурак прэзідэнцкай «вертыкалі», і ўскокваў да парламенцкага мікрафона па адным позірку Лукашэнкі. Гэта пра П.Краўчанку, які... Дарэчы, а дзе Краўчанка? Пасол Лукашэнкі ў Японіі? Вельмі паказальна.

«Шмат хто быў бы рады, калі б Чыгір узначаліў апазіцыю», — услужліва задае падрыхтаванае пытанне журналіст. «Я ведаю», — сціпла адказвае Чыгір. Гэта той самы М.Чыгір, які ўзначальваў той самы банк у час прэзідэнцкай кампаніі таго самага Лукашэнкі, якому патрэбныя былі сродкі. За заслугі ён быў прызначаны прэм'ерам урада. Гэта той самы Чыгір, у бытнасць якога прэм'ерам была сілай задушаная забастоўка работнікаў мінскага метро, забароненыя свабодныя прафсаюзы, зачыненыя беларускія школы і г.д..

Уся гэтая былая лукашэнкаўская каманда моцна ўчапілася за шыльдачку «апазіцыя», як за выратавальны круг, як за магічнае слоўца, якое зноў прывядзе іх да ўлады найкарацейшым шляхам праз Маскву, ды яшчэ на коніку двужыльным пад назовам БНФ. Некаторыя журналісты раптам кінуліся пісаць, што, маўляў, добры БНФ, цягавіты, змагарны, ды вось без галавы, без інтэлекту. Ну, але нічога, ёсць, маўляў, у нас інтэлект у «апазіцыі» (гэта значыць у спадароў Чыгіра, Багданкевіча, Нісцюка, Ціхіні, Карпенкі, генерала Казлоўскага, «японскага пасла» і г.д.).

Відаць, сапраўды Фронту галавы трэба не мець, каб даць на сабе катацца. Але перш чым зрабіць высновы, адзначым яшчэ адну цікавую з'яву.

## Чартэрны рэйс

Усе гэтыя асобы паставілі свае подпісы пад Хартыяй-97. Тэкст Хартыі — правільныя агульныя ісціны, разумныя словы (сказаныя, аднак, Народным Фронтам яшчэ восем гадоў таму, калі некаторыя «хартысты» іх абсмейвалі). Любы і кожны можа яе падпісаць. Так яно і атрымалася. Там і Народны пісьменнік Васіль Быкаў, і лукашэнкаўскі прэм'ер Міхаіл Чыгір, Народны паэт Рыгор Барадулін і міністр-генерал Павел Казлоўскі, лідэр БНФ Лявон Баршчэўскі і лідэр АГП Станіслаў Багданкевіч. Прадстаўнікі БНФ падпісалі Хартыю пры ўмове, што не будуць ствараць структуры, арганізацыі і кіраўнічыя органы Хартыі-97 (хаця гэтыя ўмовы ўжо парушаюцца). Сам жа Фронт, яго суполкі і сябры ў зборы подпісаў за Хартыю ўдзельнічаць не павінны.

У Хартыі не ставяцца (быццам бы) канкрэтныя палітычныя мэты. Не прадугледжваюцца (нібыта) канкрэтныя вынікі.

Але гэта тэма асобнага артыкула, і я не буду на ёй спыняцца. Заўважу аднак, што вынікі Хартыі (калі ўявіць, што яны будуць) могуць атрымацца зусім не такія, на якія шмат хто па-добраму спадзяецца.

Неканкрэтнасць Хартыі ўсё ж не значыць, што яна не можа мець выніковага палітычнага значэння. Інакш бы там не стаялі подпісы пакрыўджанай наменклатуры і не было б такой прапаганды. Трэба, маўляў, шумець і карысную справу трымаць пры сабе. А там, глядзіш, які-небудзь выбарчы блок узнікне (скажам, «Хартыя-97»). І платформа гатовая (пра ўсё і ні пра што), толькі едзь.

І тады тыя, што падпісвалі Хартыю, могуць раптам са здзіўленнем убачыць, што

*Чыгір, як мала хто іншы, павінен несці поўную адказнасць за тое, што рабілася ў першыя два гады лукашэнкаўскага праўлення*

# БНР

*Беларусь павінна трымаць дыстанцыю ад Расіі і абапірацца на Захад, на Еўропу*

ачольвае гэты блок, скажам, спадар Чыгір.

Між тым, спадар Чыгір, як мала хто іншы, павінен несці поўную адказнасць за тое, што рабілася ў першыя два гады лукашэнкаўскага праўлення, бо менавіта ён узначальваў урад. Менавіта яму падпарадкоўвалася міністэрства ўнутраных справаў, супрацоўнікі якога бязлітасна збівалі і дэпутатаў апазіцыі, і метрапалітэнаўцаў, і ўдзельнікаў масавых акцыяў вясны-96. Чыгір маўчаў. Менавіта Чыгіру падпарадкоўвалася МЗС, якое праводзіла палітыку анексіі Беларусі. Чыгір маўчаў. Менавіта Чыгіру падпарадкоўвалася міністэрства асветы, якое якраз у гады прэм'ерства Чыгіра распачало адукацыйны этнацыд, ліквідуючы беларускія школы і знішчаючы беларускія падручнікі. Чыгір маўчаў. А калі не маўчаў — то ў шматлікіх сваіх выступах і інтэрв'ю апраўдваў палітыку Лукашэнкі.

Але тады, калі замільгае выбарчы светлафор, мы можам стаць сведкамі іншых інтэрв'ю, у якіх спадар Чыгір і кампанія былых дзеячаў хораша раскажуць чытачам, што з імі Быкаў і Барадулін, Гілевіч і Хашчавацкі, што з імі цвет нацыі... і г.д.

Так рыхтуецца другое (ці ўжо трэцяе) прышэсце прамаскоўскай наменклатуры. Але нічога з гэтага не атрымаецца. Чаму? Таму, што даўно пара заканчваць з гэтакай «апазіцыяй».

## Гістарычны шанец

Пастараюся растлумачыць, чаму трэба развітацца з камандай пад назовам «апазіцыя».

Нашае супярэчлівае гістарычнае змаганне за свой самастойны жыццёвы лад, за сваю незалежную нацыянальную дзяржаву, гэтак жа як і страта яе 77 і 200 гадоў назад, — ёсць вынік перш за ўсё нашай унутранай палітычнай і культурна-духоўнай нестабільнасці. Гэта пачыналася даўно, яшчэ з тых часоў, калі нашыя продкі стрымлівалі з Усходу орды манголаў і потым Масквы, а з Захаду — немцаў. Праз наш народ прайшла цывілізацыйная мяжа, якая то выяўлялася, то знікала. Гэта духоўная мяжа паміж Усходам і Захадам. Знішчыць яе магла толькі супольная духоўная ідэя (гэта значыць — нацыянальная ідэя) і супольная справа (гэта значыць — дзяржава).

За ўсю гісторыю свайго двухмернага існавання ў беларусаў былі дзве нескарыстаныя магчымасці духоўнага аб'яднання і пераадолення двухмернасці. Гэта Берасцейская касцёльная унія (пры ўсіх яе недахопах і незавершанасці) і ўтварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў выніку 1-й сусветнай вайны і аслаблення Расіі. Трэцяя магчымасць, што фармальна дазволіла аднавіць незалежнасць, з'явілася нядаўна — у выніку распаду СССР.

Усе ранейшыя гуртоўныя супольныя працэсы нашаму народу даводзілася ажыццяўляць, змагаючыся на два франты: з Усходам і з Захадам. У гэтай барацьбе, пераведзенай у плоскасць рэальных палітычных дзеянняў, мы нязменна цярпелі паражэнні. Папярэдняе страшнае паражэнне, якое фігуральна агаліла сітуацыю, адбылося ў 1921 годзе на рыжскай змове. Чарговую абсурдную паразу мы можам пацярпець цяпер. Я кажу — абсурдную, бо такой сітуацыі, як зараз, у канцы XX стагоддзя, Беларусь не мела ніколі.

Цяпер іншы Захад і іншая Еўропа, у гэтай Еўропе — іншая Нямеччына і іншая Польшча. З Захаду не ідзе больш рэальная небяспека нашай незалежнасці і нашаму дзяржаўнаму існаванню. Мы маем магчымасць абаперціся на заходні інтэграваны свет, на блізкія нам ідэі, не рызыкуючы расплачвацца за гэта сваёй свабодай, культурай, сваім незалежным нацыянальным існаваннем, як было раней. Пагроза засталася толькі з Усходу. Яна цяпер і рэалізуецца ў самых брутальных і цынічных формах па класічных расійскіх клішэ.

Супольная аднамерная палітыка, якую павінна цяпер праводзіць Беларусь, гэта якраз палітыка незалежнасці, пагрунтаваная на беларускай нацыянальнай ідэі, гэта палітыка дыстанцыі ад Расіі і апора на Захад, на Еўропу, на цывілізаваныя формы жыцця, на вольных людзей, якія не пагражаюць ні нашай дзяржаве, ні нашай мове, ні свабодзе, ні незалежнасці. Калі гэты адзіны ў гісторыі шанец не скарыстаць, то іншага ўжо можа і не быць.

Разуменне гэтых ісцін цяжка даходзіць да нашага грамадства. Яму трэба мець уласны вопыт. Гісторыя, як бы ў насмешку, дала яму такі вопыт у лукашэнкаўскай дыктатуры. Як жа скарысталі гэты вопыт былая лукашэнкаўская каманда «інтэлектуалаў» у «апазіцыі» і спадары лібералы, мы ўжо бачылі.

Жыццёвы духоўны вопыт сведчыць, што адна хлусня спараджае другую хлусню, адна здрада спараджае другую здраду. Ніколі ніхто не спадзяецца на тых, хто заблытаўся на гэтых грахах. Не трэба спадзявацца і беларусам на спадароў лукашэнкаўскіх апазіцыянераў. Яны здрадзілі будучыні Беларусі ў 1992 годзе, калі разам з С.Шушкевічам і пры дапамозе Д.Булахава ўгробілі правядзенне цалкам законнага рэферэндуму аб новых выбарах парламента (было сабрана каля паўмільёна подпісаў); потым яны здрадзілі Беларусі, спрыяючы прыходу да ўлады агента КДБ; потым здрадзілі Лукашэнку, потым правалілі імпічмент Лукашэнкі і здрадзілі агульнай апазіцыі, і цяпер, стаўшы ў позы «герояў нацыі» і азіраючыся на Маскву, рыхтуюцца да чарговага подзвігу.

Невыпадкова Народны Фронт адразу пасля перавароту адкінуў ад сябе назву «апазіцыя», прапанаваў новы аб'яднаўчы прынцып — «вызвольны рух» і назваўся ім. Бо гэтыя спадары скампраметавалі нават сам тэрмін «апазіцыя», гэтак жа, як некалі ў Расіі Гаўрыіл Папоў і ўся тая маскоўская кампанія «дэмакратаў» скампраметавала тэрмін «дэмакратыя», які стаў кляймом людзей хіжых, прагных і крывадушных.

Цяпер уявім, што гэтая «апазіцыя» пры паўсюднай палітычнай бесхрыбетнасці, якая ўсталёўваецца ў грамадстве, зноў з дапамогай Масквы прарываецца да ўлады. Лукашэнка — не прэзідэнт. Лідэр нацыі Чыгір па ўказаннях Масквы фармуе ўрад, які будзе сцерагчы «законныя інтарэсы» Масквы, рускай мовы, паглыбленай інтэграцыі, «Газпрама», «трубы» і г.д. Больш сітуацыю можна не апісваць. Бо вельмі хутка ўсе заўважаць, што стала яшчэ горш, чым было, а ад незалежнасці і эканомікі нічога не засталося. Вось тады і настане поўны палітычны крах беларускай дэмакратыі і беларускай апазіцыі. І, дарэчы, Беларускага Народнага Фронту, калі ў час не саскочыць з гэтага чужога заяўленага рэйсу, не адмежавацца, не расставіць кропкі над «і».

Могуць задаць пытанне: а калі б апазіцыя арыентавалася б не на Маскву, а на сябе, на Беларусь, на ўмацаванне беларускай незалежнасці і дзяржавы, абапіраючыся на ўвесь свет, якія былі б адносіны і ацэнкі?

Такія былі б ацэнкі. Калі мы кажам пра лёс свабоды і незалежнасці Беларусі, то справа не ў прыналежнасці да наменклатуры, а ў пазіцыі. Але калі мы гаворым пра пазіцыю, то справа якраз у прамаскоўскай наменклатуры.

Год назад у звароце да дзяржаўных служачых і вертыкальнага начальства я даў зразумець, што тым, хто будзе ўсё рабіць, каб захаваць незалежнасць Беларусі, каб не дапусціць анексіі і «інтэграцыі» з Расіяй, — тым будуць амніставаныя іхнія грахі супрацоўніцтва з рэжымам і ліквідаваныя ўсе дасье. Гэтыя людзі захаваюць перспектывы.

Так, гэта пазіцыя адкрыта прагматычная, і я не люблю прагматыкаў. Але нічога няма даражэй за незалежнасць Бацькаўшчыны і свабоду, і дзеля іх трэба ісці на кампрамісы.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета былі добра азнаёмленыя з пазіцыяй вызвольнага руху. Ім авансам ішлі насустрач, аказвалі ўвагу і павагу. Яны прысутнічалі на 5-м з'ездзе БНФ, мелі больш чым год часу на роздум і выбар паводзінаў. Але яны выбралі тую ж дарогу, што і Лукашэнка.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

*Латвия — Россия*

# Оттепель переросла в холодную войну

*Но это дает Латвии уникальный шанс*

**МИД Латвии издал официальную ноту по поводу «неадекватной реакции России на рижские события». Россия пригрозила экономическими санкциями и отказала Латвии в решении пограничного вопроса. А пока верхи изощряются во взаимных обвинениях, низы протестуют по-своему.**

## Из мухи слона

Все дипломатические и не очень дипломатические демарши вызваны инцидентом в Риге 3 марта, когда полиция прекратила несанкционированный пикет пенсионеров. Пресс-секретарь президента РФ С.Ястржембский пригрозил экономическими санкциями. Отменили визиты в Ригу лидер фракции «Наш дом — Россия» А.Шохин и спикер Думы РФ Г.Селезнев. На запланированной встрече Б.Ельцина и Г.Улманиса поставлен крест. Такое впечатление, что Кремль словно и ждал какого-нибудь инцидента, чтобы отомстить Латвии. Вести цивилизованную политику в Балтийском регионе Москва, похоже, так и не научилась.

Виктор Черномырдин заявил, что Россия содрогнулась при взгляде на латвийских пенсионеров. Странно, что Россия не содрогается на факты грубейшего нарушения прав человека в самой России и в союзной Беларуси. Но это уже совсем другая история.

## Флаги и памятники

За неделю после «рижского инцидента» наметившаяся оттепель в латвийско-российских отношениях явно перерастает в стадию холодной войны. В Пскове перед зданием Латвийского консульства россияне сожгли латвийский флаг. В городе Лиепайя осквернен памятник советскому генералу. Российский МИД ничего не сказал о Пскове, зато молниеносно поставил генеральский памятник в одну цепь с событиями 3 марта в Риге и объявил, что в Латвии возведены в ранг государственной политики русофобия и воинствующий национализм.

Латвия предпринимает титанические усилия, чтобы сохранить имидж демократического государства. МИД официально заявил о «неадекватности» российской реакции. Председатель Сейма Алфред Чепанис попытался выставить перед Россией «живой заслон». По мнению спикера, введением ограничений в области транзита и таможенных пошлин Россия в первую очередь подставит под удар своих «подзащитных», ибо в латвийских портах и на железной дороге работают в основном русские. Кстати, первые социологические опросы показали, что русскоязычные жители Латвии выступают против российских санкций не менее резко, чем латыши.

## Прецедент

Российская дума тем временем рьяно упражняется в вариациях на тему санкций в отношении Латвии. Это первый случай в постсоветский период, когда один из постоянных членов Совета Безопасности ООН в одностороннем порядке, без согласия Организации Объединенных Наций, решает «наказать» народ независимого государства.

Интересно, что одним из зачинщиков является В.Жириновский. Совсем недавно он доказывал всем подряд, что совершенно недопустимо применять экономические санкции к народу Ирака, хотя там «русскоязычных» значительно меньше, чем в Латвии.

## Что впереди?

В подобной ситуации следует просчитывать наихудший вариант. До сих пор еще не было случаев принятия экономических санкций против европейской страны, не обеспеченной собственными энергоресурсами. Поэтому реальные последствия антилатвийских санкций труднопредсказуемы.

Впрочем, выход есть всегда. Как и не бывает худа без добра. Латвия должна выстоять, не допуская значительного снижения уровня жизни населения, избегая социальных и политических конфликтов и вступить в XXI век значительно более независимой от России в экономическом отношении. Эта своего рода досрочная интеграция в европейское сообщество потребует усилий и некоторых жертв — но они того стоят!



*На снимке: премьер-министр Латвии Гунтар Крастс, российский премьер Виктор Черномырдин и президент Латвийской Республики Гунтис Улманис. Теперь они встретятся, наверное, не скоро...*

Это, подобно мировому нефтяному кризису 25-летней давности, должно дать толчок развитию экономики страны. За короткий срок предстоит разработать на государственном уровне программы энергоснабжения и энергорегулирования, смены поставщиков основных энергоносителей, увеличения грузооборота портов, введения свободных экономических зон, кооперации производства продукции со странами Европы и Азии, привлечения инвестиций развитых стран. Особое внимание должно быть уделено разработке социальной программы с учетом опыта, достигнутого за последние 5 лет Эстонией и Литвой.

Можно, конечно, делать вид, что ничего не произошло. Но только неординарные меры и нестандартные решения помогут стране выстоять в критических условиях, и упустить такой шанс было бы непростительно.

# Комендантский час для детей и молодежи

**Парламент Эстонии принял закон, который ограничивает пребывание вне дома детей в ночное время.**

Дети в возрасте до 16 лет не имеют теперь права находиться на улицах без сопровождения взрослых с 11 часов вечера до 6 часов утра. В летнее время этот временной промежуток сокращается — с 12 ночи до 5 часов утра.

Наказываться нарушения новых правил поведения детей будут в административном порядке — штрафом, который в пересчете может достигать 350 американских долларов. Платить, естественно, будут родители.

Правда, новый закон предоставляет некоторую свободу местным самоуправлениям. Исходя из собственных соображений, местные власти могут сокращать время комендантского часа для детей — например, в случае проведения массовых концертов, праздников, народных гуляний или других общественных мероприятий.

С другой стороны, местные власти могут частично распространить действие этого закона не только на детей, но и на всех несовершеннолетних. Официальное совершеннолетие наступает в Эстонии с 21 года. С этого возраста жители страны получают право покупать спиртные напитки, играть в азартные игры, а также избираться в органы власти.

***По материалам газеты «Бизнес&Балтия»***

## Сацыяльная дапамога за грошы

**Сацыяльныя службы Брэста пачалі браць плату за аказанне паслуг з некаторых састарэлых людзей.**

Раней сацыяльныя службы Брэста аказвалі дапамогу ўсім старым людзям бясплатна. Гэта самыя розныя паслугі — пакупка харчовых тавараў, медыкаментаў, аплата камунальных паслугаў, рамонт санітарна-бытавой тэхнікі і гэтак далей.

Аднак з нядаўняга часу сацыяльныя работнікі за свае паслугі пачалі браць грошы. Праўда, не з усіх: адзінокія старыя і інваліды па-ранейшаму абслугоўваюцца бясплатна. А вось тым, у каго ёсць дзеці, якія па пэўных прычынах не могуць дапамагаць бацькам, прапануўваецца надомнае абслугоўванне за грошы. Каштуе гэта адносна нядорага — 93 тысячы рублёў у месяц з аднаго чалавека і 140 тысячаў — за дапамогу сямейнай пары.

Гэта вельмі зручна для тых, каму даводзіцца ад'язджаць з горада па справах на доўгі час, пакідаючы састарэлых бацькоў дома адных. Цяпер можна будзе заплаціць часова пераклaсці клопат на работнікаў службы сацыяльнай дапамогі. А як быць тым старым, чые дзеці не хочуць клапаціцца пра бацькоў?

*БелаПАН*

## Рытмы жыцця ў Мазыры

Па звестках мазырскай міліцыі, кожны дзень міліцэйскія нарады выязджаюць на 15-20 сямейных скандалаў, а 20 жыхароў горада даводзіцца здаваць у выцвярэзнік. Усяго ў Мазыры жыве 108 тысячаў чалавек.

**У.В.**

## На заробкі ў Чэхію

**За апошнія месяцы 40 жанчынаў са Светлагорскага раёна выехалі на работу ў Чэхію.**

Яны працуюць там па кантрактах на тэкстыльных і швейных прадпрыемствах, атрымліваючы ў сярэднім 150 доляраў ЗША ў месяц. Жывуць работніцы ў добраўпарадкаваных інтэрнатах пансіянатнага тыпу па 2-3 чалавекі ў пакоі. Прадугледжвае кантракт і сацыяльную медычную страхоўку, а таксама афіцыйны дазвол на пражыванне ў Чэхіі на працягу аднаго года.

А вось гомельскім швачкам з фабрыкі «8 Сакавіка» ўмовы прапанаванага кантракта не падаліся прымальнымі. На працу ў Чэхію іх запрашала адна пасрэдніцкая мінская фірма. Аднак, уважліва прачытаўшы тэкст працоўнага пагаднення, жанчыны заўважылі: пасля аплаты за пражыванне і харчаванне на руках у іх застанецца зусім невялічкая сума. Да таго ж, калі швачка на працягу трох дзён не пацвердзіць сваю кваліфікацыю, яна мусіць вяртацца дадому за свой кошт.

Як сказала адна швачка, няма ўпэўненасці, што пасля не давядзецца *«шукаць заробкаў у якім-небудзь чэшскім бардэлі, каб зарабіць грошы на вяртанне ў Гомель»*.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

## «Сабачая» льгота для пенсіянераў

**Калі Светлагорскі гарвыканкам павысіў падаткі на сабак да 150 тысячаў рублёў у месяц, гэта выклікала рэзкія пратэсты гараджанаў.**

У выніку ўлады далі задні ход. Дэпутаты гарсавета на чарговай сесіі вырашылі пакінуць таксу на ранейшым узроўні — 50 тысячаў у месяц. А інвалідам і пенсіянерам дазволена трымаць па адным сабаку бясплатна.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**



*Пенсіянерам дазволілі трымаць сабак бясплатна — але толькі аднаго.*

ПРОБЛЕМА

# Для кого работает Федерация футбола?



В апреле стартует очередной, восьмой по счету, национальный чемпионат Беларуси по футболу. Как мы уже сообщали, состав высшей лиги претерпел некоторые изменения. В Могилеве руководство клубов «Днепр» и «Трансмаш» договорилось о создании единого футбольного организма «Днепр-Трансмаш», освободив таким образом одно вакантное место. Другое возникло из-за экономической несостоятельности ЗАО ФК «Атака», тренер и игроки которого ушли в борисовский БАТЭ.

В установленные Белорусской федерацией футбола сроки подтвердили свое участие в чемпионате страны 12 клубов, а еще два — «Динамо» (Минск) и «Динамо-93» сделали это с опозданием.

За комментарием сложившейся ситуации корреспондент НАВІНАЎ обратился к генеральному секретарю БФФ, арбитру международной категории Вадиму Жуку.

**— Вадим Дмитриевич, как обстоит дело с клубом «Атака»?**

— Руководитель ЗАО ФК «Динамо» (Минск) Евгений Хвастович прислал подтверждение участия «Атаки» в чемпионате Беларуси, но мы его не признаем. Ждем юридически достоверных документов от руководства «Атаки».

**— В случае их отсутствия в высшей лиге остается 14 команд — удобное число, чтобы впоследствии, скажем, в будущем году, перейти к двухэтапному розыгрышу, в котором бы принимали участие 12 клубов.**

— У нас существует утвержденная исполкомом федерации футбола структура высшей лиги из 16 команд. Недавно мы проводили тренерский совет, который также высказался за то, чтобы сохранить это число клубов в высшем дивизионе.

**— Но позиция тренеров не может быть объективной — они люди заинтересованные...**

— А для кого же мы работаем?! Для зрителей, что ли? Для тренеров!

**— Но ведь именно зрители, т.е. болельщики, обеспокоены падением уровня футбола в национальном чемпионате, а тренеры решают свои локальные задачи...**

— В высшей лиге останется 16 команд, и ни о каких 14 или 12 не может быть и речи. Я не хочу больше говорить на эту тему.

**— Кто в таком случае заполнит освободившиеся вакансии?**

— У нас есть ходатайство от городских властей Могилёва и Солигорска и соответствующих предприятий о включении в высшую лигу «Торпедо-Кадино» и «Шахтера», из Лиды пока таких заявлений не поступало. Все имеющиеся документы мы рассмотрим на заседании исполкома 12 марта и примем окончательное решение. К слову, календарь чемпионата уже сверстан. Клубы, не заполнившие вакансии, пока помечены цифрами.

Итак, в высшей лиге по-прежнему останется 16 команд. Только станет она существенно слабее. Ведь вакансии заполнят клубы, по итогам прошлого сезона потерявшие право играть среди сильнейших, — «Торпедо-Кадино» (Могилев) и «Шахтер» (Солигорск) либо занявшая 3-е место во второй лиге «Лида». БФФ упускает уникальную возможность безболезненно сократить высшую лигу с целью ее усиления и повышения в ней уровня конкуренции. Объективная реальность подсказала путь к сокращению, но верховные футбольные жрецы стоят на своем. Почему? Вадим Жук ссылается на пожелания тренеров. Но они-то люди заангажированные: сегодня работаешь — завтра уволен. Их интерес в том, чтобы заведомых «поставщиков очков» было как можно больше. А вот какой смысл БФФ ослаблять и без того слабый чемпионат? Генсек федерации этого так и не объяснил. Создается впечатление, что интересы сотен тысяч белорусских любителей футбола федерацию не волнуют.

**Борис ТАСМАН**

## Яму адрэзалі язык. Нават два языкі

**У Кітаі 32-гадоваму селяніну Сян Шыхуа ампутавалі два з трох языкоў.**

Гэтую ўнікальную аперацыю правялі ў горадзе Чунцын, правінцыя Сычуань. Хірургі вайсковага шпіталя шмат гадзінаў правялі над аперацыйным сталом і ў выніку акуратна выразалі два языкі ў пацыента. Як паведамляе газета *China Daily*, цяпер малады мужчына зноў можа гаварыць і нармальна харчавацца.

Гэты чалавек, сцвярджае газета, нарадзіўся нармальным — з адным языком, як і ва ўсіх людзей. Аднак у дзяцінстве ў яго нечакана вырас другі язык, а пасля і трэці. Самы вялікі з іх дасягаў даўжыні 35,5 см. Кітай — сапраўды краіна цудаў, ці не праўда?

## Напад на МакДональда

**У Францыі некалькі ўзброеных бандытаў у масках напалі на рэстаран МакДональд'с. Але гэта не былі рабаўнікі.**

Злачынцы не патрабавалі ад наведвальнікаў рэстарана ні грошай, ні залатых пярсцёнкаў. Не пагражалі пісталетамі персаналу. Не забіралі грошай з касы. Яны скралі фігуру Рональда МакДональда, які з'яўляецца сімвалам сеткі рэстаранаў хуткага харчавання і з якім любяць фатаграфавацца дзеці. На месцы злачынства ўдзельнікі нападу пакінулі запіску: «МакДональд'с атручвае нашыя мазгі і нашыя жываты. Ачысцім планету ад гэтай поскудзі!» Паліцыя адмаўляецца даваць каментары.



## Як пахне твая кніжка, хлопчык?

**Брытанскія кнігавыдаўцы вырашылі расказваць дзецям пра навакольны свет без прыкрасаў — усю праўду. На рынку з'явіліся «кніжкі-смярдзючкі».**

Напрыклад, бацькі могуць парадаваць дашкольнікаў выданнем «Пахучы заапарк». Праўда, пакуль што ў кнізе толькі чатыры раздзелы — вальеры для сланоў; звярыная «сталовая», дзе гатуюць ежу для драпежнікаў; лежбішча марскіх коцікаў і — каморка галоўнага персанажа кнігі Джэка, які наглядае за жывёламі. Кожны раздзел, натуральна, мае свой непаўторны пах.

Іншая пахучая кніга называецца проста — «Школа». Дзяцей маральна і фізічна рыхтуюць да школы і вельмі даходліва тлумачаць, што настаўніца пахне парфумамі, а ў сталовай і спартовай зале існуюць свае, спецыфічныя пахі.

Адпаведныя пахучыя рэчывы дадаюцца ў фарбы. Дарэчы, у друкарскіх цэхах давялося ўстанавіць магутныя вентылятары і кандыцыянеры, а работнікам пры неабходнасці выдаюць процівагазы.

## Хоцць у мяшку — але дамоў

**Маладая жыхарка Ірака, якая хацела любой цаною ўцячы ад свайго раўнівага і цяжкога на руку мужа, была выпадкова знойдзеная памежнікамі ў мяшку з мукой.**

Па словах жанчыны, яна больш не магла цярпець мужавы здзекі і пабоі, таму вырашыла вярнуцца да сваёй маці ў Азербайджан. Гэта першы падобны выпадак, зафіксаваны на мяжы.

## Крэматорый на арбіце

**Першы іспанскі касмічны спадарожнік «Мансат-1», запушчаны з Канарскіх астравоў, даставіў на калязямную арбіту незвычайны груз.**

Акрамя навуковага абсталявання, на борт спадарожніка былі змешчаны 24 капсулы з парэшткамі вядомых людзей, якія мелі дачыненне да касманаўтыкі.

Сярод іх — парэшткі Джэна Родэнберы, аўтара папулярнага навукова-фантастычнага тэлесерыяла «Зорны трэк», і Герарда О'Нэйла, бацькі гульні з «касмічнымі гарадамі». Гэтыя капсулы будуць лятаць па калязямнай арбіце на працягу 6-ці гадоў, а пасля пад уплывам зямнога прыцягнення ўвойдуць у шчыльныя слаі атмасферы, дзе адбудзецца канчатковая крэмацыя.

## Адключыш святло — укушу

**У Сербіі электрык прыйшоў, каб адключыць святло неплацельшчыку — а той спусціў на яго сабаку.**

У выніку электрык цэлую ноч праседзеў на слупе і змог спусціцца толькі назаўтра ўвечары, калі гаспадар нарэшце праявіў міласць і пасадзіў свайго цюцьку назад на ланцуг.

## Сабаку — чалавечая смерць

**У Танзаніі суд прыгаварыў да смяротнага пакарання сабаку.**

Сабака правініўся тым, піша брытанская газета *Times*, што адгукаўся на сваё крыху дзіўнае імя — Іміграцыя. Суддзя вырашыў, што ў гэтым праяўляецца знявага да высокага дзяржаўнага органа гэтай афрыканскай краіны — дэпартамента па справах іміграцыі.

*Падрыхтавалі* **Уладзімір АБАНІН** / **Магдалена НЕПАКАЙ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1162 Нумар падпісаны ў друк 10.03.98 (15:00) Наклад — 15.400